Уладзімір
МАРУК

# ЛІСТ РАБІНЕ

ВЕРШЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

* * *

*Я з тых, хто не вякуе,*
*Хто сее і хто жне.*
*Прашу, пакуль жыву я,*
*Не дбайце пра мяне.*

*Вятрыска ранкам будзіць,*
*Мне ластаўкі пяюць.*
*Я рад, што побач людзі*
*Шчаслівыя жывуць,*

*Што небакрай палае*
*Пад стрэшкай навальніц*
*І раніца чакае*
*Багатых касавіц.*

## ВЕРНАСЦЬ

*Сыну*

Самага роднага колеру вочы
глядзяць на мяне.
Вернасць бацьку і роду такая, сынок,—
ад спакус
Абароніць
і ніколі ў жыцці не міне,
Бо у вернасці нашай
матуля адна —
Беларусь!
Бачыш:
гэта ідуць да цябе, немаўляці, дзяды
(З незлічоных магіл
пaглядаюць услед землякі).
Дык залазь жа, сынок,
у гушчар іх сівой барады,
Хай кранyцца гады і вякі
тваёй вернай рукі.
Чуеш:
трактар ад рання за блізкаю вёскай гудзе,
Дзядзька твой
вышывае бацькоўскага поля абрус.
Будзь жа верны яму,
не забудзь аніколі, нідзе,
Бо у вернасці нашай
матуля адна —
Беларусь!

* * *

На казённых ложках
Спаць прыйшлося,
На траве
І проста на зямлі.
Пазірала праз акенцы
Восень,
І драмала лета
На галлі.

Аглядаў, спакойны і трывожны,
Праз акно,
А дзе — і ўсё наўкруг:
Адыходзяць
Воблакі і пожня,
Расцвітаюць
Вуліца і луг.

Сон прыходзіў —
Дух бацькоўскай хаты,
І выносіў я
З такіх начэй:
Рэкі
З Палаты бяруць пачатак,
Неба — ад Скарынавых вачэй.

І цяжкіх шляхоў
Не вінавацію,
На зямлю і неба
Не ківаў...
Шлях ад маці
Да Радзімы-маці
З небам і зямлёю
Межаваў.

* * *

Мацнеюць фарбы маладой ракіты,
Пчала ўзлятае з кветкі лугавой,
А на вяршыні дум маіх адкрыта
Жанчына размаўляе з сінявой.

Іх чыстае, жывое сугалоссе
Ў мяне заходзіць подыхам вясны...
Гляджу на твар —
а твар бабулі Зосі,
На рукі —
бы матуліны яны...

І кроў мая імчыць імкліва ўгору,
Душа мая жанчыну пазнае,
Бо гэтак, як ніхто, яна гаворыць,
Бо гэтак, як нідзе, яна пяе.

Бо, як ніхто, аплаквае Рагнеду,
Сыноў, што засталіся на вайне...
З вяршыні дум,
дзе нічыйго больш следу,
Радзіма углядаецца ў мяне.

## ПРОДКАМ

Аднолькава жывуць не на зямлі,
А недзе там, за домам, за парогам,
Дзе не чуваць, як носяць жураўлі
Вясну лясам, нябёсам і дарогам.

Аднолькава жывуць... І ўсё ж не мы,
Яны перапыняюць нашы душы,
Хто сярод лета, хто сярод зімы,
Хто моцны — лашчыць,
хто бяссільны — душыць...

І дрэвы выпрамляюцца для іх,
І кветкі так цвітуць — у цемры бачна...
Аднолькава жывуць не для жывых,—
Для тых, хто беспаметны і няўдзячны.



Шмат забыла душа мая цёмная,
Запытаюся ў светлай душы,
Што прыгадвае вецер над стромаю
І ручай ля вячэрніх крушын.

Як суседзіцца хмарам і небу,
Корань лезе глыбей і глыбей,
Як,
крануўшыся цяжкае глебы,
Закранаеш нябёсы ў сабе...

Пра цябе ж, Беларусь, не пытаю.
Буду сам, покуль вочы гарэць,
Полю, небу і вольнаму гаю
Тваё вечнае імя шаптаць.

* * *

Прашу, глядзіце ў вочы, дрэвы,
Глядзі, адважная сасна,
Тваё чысцюткія напевы
Не раз крывавіла вайна.

З табой стагоддзі і высновы
Сягоння ў сэрцы зварушу.
Глядзі у вочы, край сасновы,
А вочы скажуць пра душу.

* * *

Рэчак гордая плынь.
Гордасць выпраміць нельга,
Як не вычарніць сінь
Беларускага неба.

Як яе не крышы,
Гэту гордасць,
вякамі
Прыбывае ў душы —
Між двума берагамі.

Калі нават і час
Вып'е ўсю да астачы,
Пераселіцца ў нас
Гордасць рэк.
Не іначай.

І тады з-пад павек
Сінь пагляду заззяе...
Гордасць спадчынных рэк —
Гэтаксама й людская.



Памяць таго берага —
Два на ветры ўзгоркі,
Мурагу ўраселага
Вечная гаворка.

Там хвіліны чаіца
На крыле калыша...
Бераг падымаецца,
І не ўбачыш,
вышай.

Вышай, памяць, вышай!
З-за кашлатай ліпы
У нядужай цішы
Чуюцца усхліпы.

Вышай, памяць!
Маму
Мы з табою чуем,
Мама мые раму,
Без дзяцей гаруе.

Вышай, памяць!
Бачым
Мы з табой няблізка:
Разам з мамай плача
Зорка з абеліска.

Вышай, памяць!
Слухай:
Дзесь за павароткай
Не святога духа
Чуцен голас.
Продка.

Чарай свету белага
Продкаў памянём...
Памяць таго берага
Вышай
з кожным днём.



Холад кранае спіну:
Бацька ідзе на вайну.
Голас у горле трымае —
Сілу бацькоўскую мае.

Вецер падняў валасы.
Нашы хрыпяць галасы.
З чорнага неба імжыць.
Горла у бацькі дрыжыць.

...Голас яго вясёлы
Аднойчы вярнуў вясну...
Хай не вяртаецца голас,
Што пайшоў на вайну.

## ЛЯ ПОМНІКА СЦЯГАНОСЦУ

Мне
      і шырокаму абсягу
З табой балюча гаварыць
Пра ўсё,
            што на прабітым сцягу
Агнём жыцця твайго гарыць.

З табою побач немагчыма
Ні слова вымавіць
                              пра смерць...
Цябе,
      як маці і Айчыну,
Жывым патрэбна зразумець.

# МОСТ

*Удовам Вялікай Айчыннай*

На высокім беразе
Роўныя прысады,
Там з дзяцінства бачу я
Лёгкі дым кастра,
Да якога дакрануцца
Быў бы вельмі рады.
Сaступі ж мне шлях сюды,
Удава-сястра.

Вось і зараз ты стаіш
На бязлюдным мосце.
Не магу я, не магу
Ў твар табе зірнуць:
Прыгадаю ля цябе
Васілёву постаць,
Не ўтрываю
«Васілёк!»
Да яго гукнуць.

Страпянешся, удава,
І над цэлым светам
Паляціць тваёй душы імя: —
«Ва-сі-лёк!..»
Так вось кожненькі гадок,
Як надыдзе лета,
Гавару і я з табой
Назіркам, здалёк.

Не магу ступіць на мост
Я
На вочы тыя,

Што на кожнага з мужчын,
Як на лёс,
Глядзяць,
У якіх перад усім —
Воблікі святыя,
А святое і вайне,
Веру,
Не адняць...

Прытухае успамін
Шчырага дзяцінства,
Памяць з берага таго
На раку дыміць.
Я шукаю іншы мост,
Крочу па гасцінцы.
Вось і мост.
Ды і на ім... удава стаіць.

## САДОЎНІК

Асцярожна!
У садзе
Два дні, як жывуць птушаняты,
Вецер ходзіць павольна,
Пацiху шапоча трава...
Асцярожна!
Два дні
Я жыву, як багаты,
Ад таго,
Што спакойна сівее мая галава.

Гэты сад я садзіў
Там,
Дзе спалена бацькава хата,
Там,
Дзе спалены людзі...
Адна на ўсю вёску труна...
Птахі ў сад не ляцелі.
Я думаў, што сам вінаваты,
Але ж сад —
Любата.
Дык, выходзіць,
Віною — вайна.

А нядаўна
Уранні
Пачуў я нясмелую песню,
А заўчора
У поўдзень
І я прычакаў птушанят...
Аджывае мой сад,
Аджывае
карэннем балесным,

Аджывае
Душою балеснай
Мой сад.

Мае першыя птушкі
Высокага, вольнага крылля!
У якім пакаленні
Змаглі яны страх перажыць,
Каб люляў птушанят
Палагоднелы
Сад-надмагілле?..
...Толькі мне
Гэты сад
Аніяк не забыць!

* * *

Унук пад бярозаю цацкі
Збірае бабулі ў фартух...
З вайны
у бярозы і бацькі
Агонь у вачах не патух.

Маламу так добра ад смеху,
А ім неспакойна ўдвая
Глядзець на маленькую ўцеху
І ведаць —
тут памяць твая.

Тут куля яго не дагнала:
Ствалом засланіла яна...
Ці ж гэтага, кроўнага, мала,
Каб іх парадніла вайна.

Каб сталі, не зведаўшы мукі,
Што ім напакутаваў лёс,
Дзядоў нескароных унукі
Унукамі верных бяроз.



Птушкі узняліся над стаўком,
Недзе за ракой прадоўжаць сварку.
Быццам хто ахутаў хараством
Дрэвы у старым і чыстым парку.

У вачах тваіх, мой жвавы сын,
Хараство —
ад майскае прыроды,
Калыханне лёгкіх вершалін
І жыцця жывая асалода.

Нечакана сын прыцішыў крок:
Нам насустрач —
ціхія старыя.
На грудзях у дзеда незнарок
Медалі звінелі франтавыя.

І пагляд хлапечы памудрэў,
Ён на дрэвы пазірае строга,
Быццам зараз выгляне з-за дрэў
Твар яму нязнанага былога.



Мой лес наладзіў струны
Сваіх высозных дрэў,
Ён вецер, быццам гунаў,
Сягоння перастрэў.

І струны зазвінелі
Пра боль свой і пра гнеў.
Супольнай дрэў капэлі
Час выбіраў напеў.

І ўкладваў у дыханне
Стагоддзяў галасы.
На песню і на гранне
Збягаліся лясы.

Выходзіла з былога,
З агню, са зрубаў, трун
Вялікая падмога
Для маладзенькіх струн.

Панёсся над планетай
Невынішчальны звон:
Лес накладае вета
На атам і нейтрон.

Сягоння гэта песня
Усёй зямлі чутна,
Каб не ацíхла ў лесе
Апошняя струна.



Самым снежным днём мяне чакай.
Я ж пакуль сціскаю аўтамат,
Падаю на снег ля раўчука,
Адчуваю ўслед і твой пагляд.

А неасцярожная мішэнь
З куляй паспрабуе жартаваць,
Самы смелы перад куляй — пень,
Бо яго з-пад снегу не відаць.

Я ж на хвілю твой забуду смех,
Ён і не спяшаецца сюды...
Я вярнуся ў самы-самы снег,
Каб да рання замяло сляды.

Каб не здагадалася — адкуль,
І не засмуціць вачэй тваіх...
Хоць і не стаяў насупраць куль,
Ты, я знаю добра, супраць іх.

* * *

Я бачыў —
дрэва прагне волі,
А потым бачыў я —
пайшло
Цераз паворанае поле,
Мінуўшы соннае сяло.

А потым я яго прыкмеціў
Ля гаманлівае вады.
І шмат разоў на белым свеце
Страчаў ягоныя сляды.

Каля квітнеючага поля,
У недасечаным ляску...
Яго ўстрывожаная воля
Мяне вадзіла за руку.

Я падыходзіў блізка-блізка,
Глядзеў у твар,
вучыўся жыць
У дрэва, што ля абеліска
Застыла —
і цяпер стаіць.



Мінаю рэкі і брады.
Яшчэ бруяць крыніцы.
Хоць не знайсці жывой вады,—
Было б жывым напіцца.

А хто крынічку задушыў —
Не пашкадуе мора.
Няма прасторы для душы,
А цэлы свет —
прастора.

І ўсё вяртаецца да нас,
Што высахла, забыта.
Дзе у нябыт ступае час,—
І час ідзе з нябыту.

* * *

За мястэчкам — курган.
Голас ветру і волі.
Асцярожны гурган
Азіраецца ў полі.

Між сусветных трывог
Я стаю на кургане.
Ў сэрцы, колькі ўжо мог,
Даўні час нагруганіў,

Названіў цецівой
І крывёю палохаў...
Маладзенькай травой
Ля падножжа — эпоха.

На вяршыні, ля ног,
Вецер часу вірыцца...
І раднейшых трывог
Аніяк не пазбыцца.



Мяне вучылі сваякі,
Ва ўсім упэўненыя людзі,
І ў сне краналі мерцвякі —
Маўляў, з табой такое будзе!

І я навуку іх бярог:
Як трэба жыць, не жыць — таксама.
Пераступалі мой парог
Мае камедыя і драма.

Мае заслугі і грахі
Са мной сядзелі, бы на троне.
Я чуў усё, я быў глухі,
Як летуценны ліст на клёне.

І забіралі ад мяне
Зямля і людзі час па жмені,
А я з гадамі не бяднеў,
Свет не мінаў мае скляпенні.

І ад раўнінных да крутых
Час для мяне шляхі разгортваў,
Па іх ад мёртвых да жывых
Іду, як ад жывых да мёртвых.

* * *

Пад раніцу — такі мароз,
Аж пераязвоньваюцца грушы
Пра нечы век, пра нечы лёс,
Пра насцярожаныя душы.

І гэткі ўстойлівы, як свет,
Марозны звон праз час сцюдзёны
Ляціць удаль, ляціць услед —
І адлятаюць прэч вароны

Ад пабялелага каня,
Ад неўмарозлівага часу...
І ўсё нязначнае
да дня
Знаходзіць вечную акрасу.

* * *

Ветразі халоднае зімы —
Дрэвы
        ўсё плывуць за небасхіл...
Толькі каля самай вёскі мы
Чуем шоргат палазоў і крыл.

Вось і ўсё: і дома, і цяпло
Разліецца па тваёй крыві,
Для якой дарог — уга! — было:
Ехалі,
        ляцелі
                і плылі.

Вось і ўсё.
                Здарожаны, ляжыш,
Увагрэты дрэмле успамін...
Дый на гэтым ціхім рубяжы
Ты, як і ў дарозе, не адзін.

Вось на твар яна, заспеты снамі,
Паглядае ціхенька здаля:
Правяла, была заўсёды з намі
І сустрэла
                родная зямля.

* * *

Як ціха за лесам, на Случчыне.
Вярбу нахіляе зара.
У воблака вочы засмучаны,
Распалены зрэнкі ў кастра.

На полымя з ціхай адвагай
Глядзіць малады васілёк...
Са Случчынай, нібы са сцягам,
І я размаўляю з дарог.

Пра боль наш.
Мы болю не рады.
І радасць.
А радасць для ўсіх.
Прыціхлі лясы і прысады,
Мы — іх пераборлівы слых.

Мы цёплае слова пачуем,
Нядобрае — скоцім з гары...
Па Случчыне сэрца сумуе,
На Случчыне сэрца згарыць.



Зноў гаспадарыць дождж на панадворку.
Ад цяжкіх дум устрапянецца дом.
Заводзіць сад
апошнюю гаворку
З апошнім,
непрыкмечаным лістком.

І як ні кліч,
сусед цераз дарогу
Не хоча добрым словам адарыць,
На лаўку сядзе, выпрастае ногі
І сам з сабою стане гаварыць.

Закрые твар.
Забудзецца на восень,
На востры боль з апошняе вайны,
На ўсё, што сэрцу зведаць засталося
Да самай цяжкай,
да сваёй труны.

Сусед сягоння, пэўна, не ў гуморы,
Я разумею —
голы сад, імжыць...
І ўсё ж са мной, бы мой народ, гаворыць
На мове ціхай, велічнай душы.

* * *

Мама, на твае далоні
Птушка прынясла яечка.
Снег, што засцілае скроні,
Зацярусіў нашу рэчку.

Пальцы сталі каранямі,
Бо ў зямлі яны спрадвеку.
А тваё дыханне з намі,
Як ад стомленасці лекі.

Голас немаўлятка знойдзе,
Прынясе да нас на золку.
А душа па свеце пройдзе,
Не прымяўшы нават зёлку.



Ліст развітальны з былiннага дуба
Зробіць крылатую цішу наўкол.
Там,
    дзе быліначку кожную любяць,
Ён аніколі не ўпадзе на дол.

Будзе лятаць ён ля самых аблокаў,
Каля высокіх і добрых надзей,
Будзе насіць яго вецер высокі,
Лашчыць здзіўлёныя вочы людзей...

«Мама»,
        што супраць начы вымаўляю,
Перад дарогай прысеўшы за стол,
Быццам лісток развітальны,
                                        крыляе
І аніколі не ўпадзе на дол.

* * *

У бацькі вочы шэрыя, як дождж —
На яблыні, на вокны, на прысады...
Ляціць апад і патрапляе ў кош.
І цемра прыпыняе далягляды.

А бацька прысядае да стала,
Глядзіць да слёз на зморшчаныя рукі.
А ў тых слязах ані не ўгледзіш зла
На лёс.
А толькі цень дажджлівай скрухі.

А потым я, прачнуўшыся, гляджу,
Як ён ціпком спяшаецца на ганак
І падстаўляе шэры твар дажджу,
І твар святлее —
абуджае ранак.

І ўсё, што невыноснае было,
Што праганяў, што праклінаў за мукі,
З вачэй яго за цемраю плыло,
І ён так лёгка браў мяне на рукі.

* * *

Баба Паланея. Дзед Міхась.
Вы яшчэ прасілі ласкі ў бога,
Я ж не да яго шапчу, да вас —
Столькі ўзяў я вашага
зямнога.

Ды, відаць, зямлі не давяраў,
Так, як вы,
Міхась і Паланея...
Лапік той,
што конік ваш араў,
Зараз пераворвае завея.

* * *

**Вёска Гута, скажы мне, Гута...**
*А. Сербантовіч*

Гута — крыштальнае дно
Самых высокіх нябёсаў.
Хаты бацькоўскай акно
З дзедавым полем зжылося.

Не наглядзяцца яны,
Як выпраўляемся ў людзі...
Гута.
Крышталю званы
Песняй напоўнілі грудзі.

І немагчыма ступіць
Нам за мяжу адчужэння:
Цяжка, як цяжка любіць
Гуту майго пакалення,

Дзе ад яго і відно
Тое, што нам засталося —
Гэта крыштальнае дно
Самых высокіх нябёсаў.

## СУСТРЭЧА

Дуб верхавінаю неба адметвае
Ад маладых, надакучлівых хмар...
Заўтра — у мора.
                    Паветра прагрэтае
Сёння яшчэ працінае мой твар.

І невядома адкуль, ды вяртаецца
Гэтай жа сцежкай сусед.
І з перадплечча ягонага чаіца
Не наглядзіцца на свет.

І неўспадзеў адчуваю вялікую
Прагу нязнаных шляхоў,
Што акіянскаю чаіцай клікае,
Шэптам паўночных снягоў.

Тое, што я адшукаю і зведаю,
Мабыць, суседа майго абміне...
...Чайка,
        гляджу,
                з перадплечча суседа
З жаласным крыкам ляціць да мяне.



*Гуценцам*

Не трэба далёка, высока
Нясці свае ногі і рэчы,
Каб згледзець, як ясна навокал
Ад светлых галоў чалавечых.

Дзе так зберагалі ўспаміны,
Што лёгка паверыць на слова,
Дзе трапныя кепікі-кпіны
Ляжаць да пары, нібы дровы,

Каб некалі зырка ўгарэцца
І стаць неастудлівым жарам,
Каб нельга было не зардзецца
Таму, хто з насупленым тварам...

Ад светлых галоў чалавечых
На гэтым праясненым месцы
Знікаюць, бы нехта іх лечыць,
І цёмныя плямы на сэрцы.

## СПЁКА

Даўно на воблакі глядзіць
Стары, маўклівы і рухавы,
І далікатна просяць піць
Ля ног яго зямля і травы.

І вось ён хмару ўпільнаваў
На пацямнелым даляглядзе,
І заіскрылася трава
Ў яго ўсхвалёваным паглядзе.

А хмара ціха праплыла,
Не грымнула, не наталіла,
А толькі ўсё сама піла,
Піла і моўчкі піць прасіла.

Стары пайшоў да гладыша,
Да гаркаватай лусты хлеба,
На міг ягоная душа
Бы адвярнулася ад неба.

Глыток балючы каўтануў,
І так яму нясцерпна стала,
Што рэшткі ў неба плюхануў —
І там як бач загрукатала.



Прачнуся заране-заране, як свет
нашых продкаў,—
Не можа стрымаць сябе продкаў маіх гамана,
Затоку зары пакалыхвае іхняя лодка,
На пешай дарозе іх тронная доля відна.

А горкая доля скрыгоча варожай падковай
І вечнаю доляй напомніць жыццю пра мяне,
Астатняя згадка, апошняе крэўнае слова
Скупою маршчынкай пасмяглыя вусны кране.

І ўстану заране. І сон памахае з парога
Задумным вачам, асцярожным жальбе
і кляцьбе...
І там, за парогам, світанкам узыдзе дарога,
Якая раскажа, як помнілі людзі сябе.



Ўсё пачынаецца з малога:
Расы, што высцеле гару,
І цноты возера ляснога,
І слоў, што ўсім не гавару.

Ад асцярожнага прыліву
Зялёных фарбаў з-за вады,
Дзе шматгалосага матыву
Чуваць чмяліныя груды.

Дзе перад сцежкай — белы камень
З парослай мохам галавой...
І свет такі гаворыць з намі,
Як паміж небам і травой,

Дзе ледзь пачатая дарога
Сваіх не ведае прыкмет...
Свет пачынаецца з малога —
І гэтым ён вялікі, свет.



Мне і гэтай рakі не мінуць,
Што заводзіць размову з лясамі,
Той,
дзе вольныя рыбкі жывуць
З неразгаданымі галасамі.

Не схаваныя тоўпічай вады
(Усяго там яе па калена),
Сустракаюць яны халады
І чакаюць,
каб зноў пацяплела.

Я прыслухаўся толькі на міг:
Галасы, галасы наплывалі —
Перашэпт гэтых рыбак малых,
Што свае галасы захавалі.

Мне б наслухацца да глухаты
Гэтых сціплых званочкаў прыроды...
Ранняй восені ліст залаты
Засцілае жаданні і воды.

І гляджу на жывую ваду,
Устрывожаным рыбкам клянуся,
Што ніколі адсюль не пайду,
Каля гэтай ракі застануся.

Каля гэтых бяроз маладых,
Што ў ваду,
як на свет,
пазіраюць,
Разам з рыбкамі пестуюць слых —
І душу ад мяне забіраюць.

## РАБІНА

Раніца бяжыць па мураве,
Цёплая і голасам, і тварам.
І паціху хмара праплыве,
Не спаткаўшы маладзенькіх хмарак.

У зацішку пад старым акном
Пазнаю па голасе рабіну.
Голас той, з усмешкай і агнём,
Я даўно на ўсіх людзей пакінуў.

А цяпер на голас прашапчу:
Як цябе вятры не расхапалі,
Не ўдалося патушыць дажджу,
Людзі і гады не ашукалі?..

Не магу дазвання зразумець,
Як чужым агнём не занялася,
Не змагла душою пастарэць,
Да людзей і часу прыжылася.

І таму так незвычайна мне.
Ці зямля,
ці кроў у нас такая:
Голасам рабіны ахіне —
І душа вандроўная палае.

## ДЗЯТЛІК

З рэчкі да воблакаў
лёткі павеў халадку.
А дзятлік кружляе
ля сціхлай сасны пакалечанай,
Мелодыя ў дзятлікавым малатку
Ад соснаў пачутая,
соснам прысвечана.

Выпытвае, чую:
«А дзе, а чаму? Так, так, так...
А хто вас пакрыўдзіў:
вятры, ці маланкі, ці нелюдзі?..»
Які ты, мой дзятлік, вялікі працяк,
Адважны працяк,
бо і ў нас твая шчырасць папераздзе.

Над хворай сасной
не зважаеш на нас і на лёс,
Спінае твой голас
вялікая нотка расстайная,
Тук-тук малаточкам,
так-так — замест слёз,
Тук-так — над зямлёй, над жыццём,
як над вечнаю тайнаю.



Так падобныя ночы,
Калі зоркі маўчаць.
Сэрца ж нечага хоча —
Свет нанова пачаць?

З ручаінак, што ў Лету
Перанеслі гады.
Ды нашто гэта свету? —
Свет і так малады.

І ніколі не сцерці
За сабою сляды.
Як сказаць гэта сэрцу,
Покуль сам малады?

Бо дарэмны занятак
Адкрываць адкрыццё,
Ды і свету пачатак —
Не далей, чым жыццё.

# ДАРОГА

Сын, трымайся дарогі,
Ты ўжо лічыш да трох,
Ты з пялёнак не ўбогі,
Хай убоствуе бог.

Пры табе тваё права
У дарозе расці,
Скасавурыцца ўправа,—
Напрамую пайсці.

Ані з кім твая воля —
Прыпыніцца ці не.
Твая вечная роля
Сэрца з месца скране.

Ведай, гэта дарога,
Па якой ты ідзеш,
Адвярнула ад бога,
Прывяла да людзей.

І нясе нашы раны
(Немагчыма стрымаць)
Да адзінай нязнанай,
Што з зямлі не відаць.



Мы селі зноў на мель,
І выплывае крыўды
Маленькі карабель,
Які перакуліў бы.

А ты ж ляцеў услед
За сінявокай марай,
Спяваў пра цэлы свет,
Што абплывеш з гітарай.

Не лайнер, а буксір
Цябе частуе потам,
Адзін на ўсіх кумір —
Звычайная работа.

Плюеш на мазалі,
Далоні паціраеш
І рады: «Ну, плыві,
Пасудзіна старая!..»

А зноў сустрэнеш мель,
І выплывае крыўды
Маленькі карабель,
Які перакуліў бы.

* * *

Дождж вяртаецца васільком,
Васілёк падфарбоўвае вочы,
Вочы бачаць старэнькі дом,
Што чакае насупраць ночы.

Дом вяртае з дарог у сад,
Сад у одуме —
                    спеліць думы...
Васілёк, і дождж, і пагляд...—
Вы складаемыя той сумы,

Што ўзвышае жыцця цану
На якія няхай і долі,
Ды без вас, як вочы без сну,
Я —
      без мужнасці і без волі.

Як спустошаны ліхам дом,
У які не вяртаюцца вочы,
Як не зведаны васільком
Дождж,
          што недзе прапаў уночы.

* * *

Сціплы водар вечаровай мяты.
Безліч хмараў
часу напавер
Неба дасць.
Хай будзе ён багаты
На ваду,
траву, дзе ходзіць звер.

На хмызняк,
на яблыні ля хатаў,
На бабра у чыстых тонях рэк...
А калі надыдзе час адплаты,
Хай за ўсё заплаціць чалавек.



Світання свет далёкі.
Па ценях час ідзе
Туды, дзе ноч аблокі
Настойвае ў вадзе.

Туды, дзе на дарогу,
Што дзень крылом прасек,
Свой боль, сваю трывогу
Выносіць чалавек.

І на дарозе гэтай
Стаяць яны адны,
Задумліваму свету,
Нібы жыццю, жадны.

І вецер асцярожны
Іх думкі не кране,
І толькі час трывожны
Ў сухіх вачах мільгне,

Як зорка з дальняй далі,
Што век глядзіць на нас,
Каб мы не забывалі,
Што ўсіх яднае час.

* * *

Брат, маршчыняцца нашыя лбы,
Зноў пацягвае холадам з ніў.
Як апошнія, пахнуць грыбы
Пад бярозай, што бацька прысніў.

А за вечарам боль не міне,
І не выпіта радасць да дна...
І святло ў адзінокім акне,
Быццам памяць, на ўсіх нас адна.



Зноўку я сябрам незразумелы,
А здаецца, што і быў такі.
Я гляджу, як сонечныя стрэлы
Падаюць у травах шапаткіх.

Я на гэта добрае імгненне
Не шкадую дабрыні душы.
Бачу маладое зіхаценне
У вадзе аблокаў і крушын.

Ведаю,
што гэта застанецца
Тым,
хто заўтра ступіць на траву
І душой да зёлак дакранецца,
Без якіх і я не пражыву.

Пазайздрошчу —
вецер лётаць вольны.
А трава завяне пакрысе...
Пах яе, шчымлівы, неадольны,
І мяне у вечнасць аднясе.

* * *

Я стаю над травой.
А над лугам
Матыльку матылька не дагнаць.
Чарацінкі —
слухмяныя слугі —
На гняўлівую рэчку глядзяць.

Вецер траўневым песенным ладам
Агукнуў.
І па лузе пайшоў,
Дзе не ўсё перабрана паглядам,
Перaслухана разам з душой.

Дзе пра свет неаглядны,
далёкі
Зноў вячысты званочак звініць.
І не хочацца быць адзінокім,
І адзіным не хочацца быць.



Не адзываецца мой лёс.
Я на яго ані не ў крыўдзе:
Паходзіць скрушна ля бяроз,
Паплача
і пад ранак прыйдзе.

Тады ўва мне
і там, дзе я,
Такі пачнецца свет няпросты
З вялікай песні салаўя,
Які на ўсіх спяваў пагостах,

Дзе кожны рух,
дзе кожны след
Надзелены такою сілай,
Якая бессмяротны свет
І нашы лёсы парадніла.

* * *

Над горадам лісце лятае,
Трывожыць адлётам сваім,
Як быццам ад лета ўцякае,
А мы яму ўслед не бяжым.

Яно ў свае спраты паляжа,
І мы яму ўслед паглядзім...
А восень хусцінку завяжа
І выплача слёзы над ім.

* * *

Я прыпыніўся.
                    Прыляцеў
Якісьці голас нечуваны
З-за ўдумных, несціханых дрэў,
З адсюль няўбачанай паляны.

Як быццам недзе ўваскрэс
Забыты птах з душой музыкі...
А што яшчэ адкрыеш, лес,
Мне —
        з языком,
                ты —
                    без'языкі?

## ТРАВА

Аднаму я дарогу паказваў,
У другога — дарогу пытаў,
Паўтараючы горача назвы
Адухоўленых вераю траў.

Я да іх паварочваў маршчыны
І вачэй сваіх холад і жар,
Я траву цалаваў, як жанчыну,
Для якой быў апошняй з ахвяр.

Я траву і за светам пачую,
Так пачую, як зараз жыву...
Я любоў ёй сваю ахвярую,—
Вось чаму я вышэй за траву.

* * *

За сцяной калючае ажыны
Зліўся рэк і лесу даўні шум,
Свету невядомыя сцяжыны,
Па якіх іду да светлых дум.

Там спыняе воблакі над жытам
Вечнае цікаўнасці пагляд,
І, нібы на свеце неабжытым,
Маці немаўля нясе праз сад.

І ў зялёным голля сутарэнні
Безупынку дзень сваё пяе —
Пра чые, не ведаю, імгненні,
Пра гады, не вызнаю, чые.

І захочаш стаць неасцярожным,
Каб і гэтай песні паспытаць,
І над светам, быццам птах трывожны,
З кожнае сцяжынкі узлятаць.

* * *

Час пакінуў незвычайны след,
Я яго чытаю, як умею,—
Ад любві шырэе ясны свет,
Як і зрок ад розуму яснее.

І наяве, і ўва сне —
нідзе
Не баюся нічыёй пагрозы,
Покуль паважаныя ў людзей
Свет разумны,
як і ясны розум.



Узыдзе з воблакаў яснота
І дасць хоць крыху паспытаць
Свайго няспыннага палёту...
Як далі ціхія ляцяць!

Ажно варушаць голкі сосен,
Агонь рабінавы зіхціць...
Сваю няўстойлівую восень
Мне абгаворваць
                    і любіць.

А несканчоных ясных даляў
Не адцурацца галавой:
Яны здавён мне аддавалі
Гарачыню
                    і холад свой,

Дзе іскры смеху,
                    золкасць плачу
Нясе за мной цікаўны клён,
Каб я свой ясны дзень убачыў
І не прыспешваў іншых дзён.



Раскашуе лета, раскашуе.
Вецер у двары маім начуе.
Каля плота ў даўнім задуменні
На драўляных ножках ходзяць цені.
І без асцярогі і ляноты
З роснага парога сходзяць боты.
Неба пазірае добрым вокам:
Ля хлява тупочуць, каля вокан,
Па зямлі, пасцеленай травою,
Ля цяпла, жыцця і неспакою,
Ля таго, што мучыць і сцінае,
Радуе і бровы выгінае.
Ля ўсяго, што зведана, здабыта:
Паху сцен, і пораху, і жыта,
Ля галоўкі макавай пахілай,
Ля вады, што помніць, каго мыла...
Гэта ўсё, што на душы асела,
Паглядзець душа і захацела.



Зацярушана пасека.
Сніць медуніцу.
У заснежаным полі —
ніякіх дарог.
І блукае над рэчкай,
не можа спыніцца
Ці вандроўнае дрэва,
ці леташні стог.

На прасторы празрыстай,
прасторы шырокай
Навакольныя гукі
наведваюць нас.
Добра слухаць,
што шэпчуць над хатай аблокі,
І чуваць,
што гаворыць яна у адказ.

Незвычайныя словы
пачуць па сакрэту,
Што заходзяць у сэрца
глыбей і глыбей...
Добра думаць,
што ты неаддзельны ад свету,
А калі загаворыш —
пачуюць цябе.


3 Зак. 2512

* * *

Колькі выпадзе смутку і жалю?..
Не схаваўшы пачуццяў ані,
Дзве бярозы ў палескім паркалі
Прыпыняюць пагляд на агні.

І вячэрняя стома палошча
Іх надзеі за свет заглянуць.
І, як вуліцы сходзяцца ў плошчы,
Жаль і смутак да сэрца ідуць.

Жаль і смутак — лісця трапятанне —
Па зары, што далоні кране,
І па тым, як ступае змяркание
Па траве, па маёй старане.

Жаль і смутак.
Прыходзяць і гінуць,
І не просяць ні слоў, ні вады,
Толькі месца у сэрцы пакінуць,
Каб вяртацца было ім куды.

## СТАРЫЯ ТАПОЛІ

Гэты час вячэрняга паўзмроку,
Дзе таполі на двары у лета,
Як і я,
          стаяць навідавоку
Перад полем,
                    як перад Сусветам.

З шэрым тварам, сцішаным паглядам,
З думкамі,
               што і ўначы свіцяцца...
Разумею вас, таполі,
                              самі
Мы з зямлёй не хочам развітацца.

## СВІСЛАЧ

У леташнім горадзе вечарам
Над ліпаю зорка ўзышла.
Па Свіслачы згадкаю вечнага
Блакітная поўня плыла.

І дрэвы глядзелі на поўню,
Што недзе за хмарай жыве.
Тады пра сябе я не помніў,
А слухаў, як Свіслач плыве,

Як голас травы нерухомеў,
Задумаўся голас крушын...
А хвалі ракі пакрыёма
Аблашчвалі бераг душы.

Тады я міжволі нагнуўся
І поўню пакратаў рукой:
І быццам няўзнак дакрануўся
Да вечнай —
смяротнай душой.



Лёгка дыхае сасна,
Цяжка думае дарога.
Не апошняя вясна,
Не апошняя трывога.

Зноў падымецца трава,
А дажджыначка упадзе.
Не запомніць галава,—
Адаб'ецца у паглядзе.

Прыбіраецца ў вяспу
Год —
завучаная роля...
Толькі я сваю адну
Не сыграю так ніколі.

* * *

Лес і поле. Роўнае святло.
Кожны лісцік, як душа, свіціцца.
Колькі нас, няўважлівых, прайшло
Каля вас, авёс, чабор,ігліца...

Каля вас, жывыя карані —
Вечнасці найноўшыя каралі...
Колькі вы душы і цеплыні
Людзям і нябёсам аддавалі!

Гэта ж вы перапынялі час
І пыталі аб ягонай крыўдзе...
Той багаты —
хто прыйшоў да вас,
А шчаслівы —
хто без вас не прыйдзе,

Можа, ў сталасць,
можа, ў маладосць,
З добрых дзён і нават з ліхалецця...
Лес і поле —
што было і ёсць —
Лепшае ад нас саміх на свеце.



Усё, што бачу раннім летам,
Яшчэ аддыхвае вясну.
І спадзяванні
родным светам
Душу напоўняць не адну.

І ўсе пялёсткі, што ірдзеюць
У чыстых водблісках зары,
Яшчэ мяне ўтрымаць умеюць
На гэтых могілках старых.

Дзе на вясну гукае лета,
І крыж гайдаецца, як цень,
І на далонь, бы на планету,
Апошні падае прамень.

Дзе ўсё сышлося на змярканні,
Што ў ціхай памяці нашу,
І,
да апошняга жадання,
Ужо не месціцца ў душу.

* * *

Лета маленькія дрэўцы абдыме,
Долю зямную адчуюць яны.
Не прысягаючы ў нечым радзіме,
Будуць да скону радзіме відны.

Ночы задумныя,
дні спадарожныя
Будуць лістотай вітаць шапаткой,
Кожнай лісцінкай
і хвіляю кожнаю
Вечнай прасторы дарыць неспакой.

* * *

Не бываем з табой каля дрэў.
Як жывуць нашы клёны, таполі?
Я ж, здаецца, яшчэ не старэў,
Ну а ты —
не старэцьмеш ніколі.

Там шырокія кроны,
а ў іх
Столькі голасу, спеўнага ладу...
Можа, час перайначвае слых,
Можа, менш давяраем пагляду?

Так спяшаем усюды паспець,
Дзе мы толькі з табой не бываем...
Забываем на дрэвы глядзець —
І патроху сяброў забываем.



Будзь такой, якой не знаю,
Як любоў у дні любві,
Будзь такой, якой чакаю,
Каб сказаць табе: «Жывi!»

Дзеля дзён, што засталося,—
Лёс не хопіць перашыць...
Будзь як свет, што лёс папросіць,
Каб табе было дзе жыць.

Дзеля веры, дзеля меры,
Што адпушчана крыві,
Будзь вялікай, як намеры
За прамоўленым «жыві».



Паглядзі на лес, на снег у полі,
А мяне забыцца не спяшай,
Я табой душу не наспатоліў...
Можа, неспатольная душа?

Можа, так здаецца мне самому.
Не згадаць, калі я стаў такі:
Утрапёны — сэрцам, верны — дому,
І цяжкі — як неба для рукі.

Можа, азірнуцца я не ўмею,
Не хаваю ў сэрцы драбязы,
Толькі ад вялікага — нямею,
Кулакі сціскаю ад слязы.

Вось табе я слёзы выціраю,
Голас твой на слых душы бяру —
І нямею, кулакі сціскаю,
А «кахаю» зноў не гавару.



Не магу я інакш,
Калі доўга
Цябе не пабачу.
Я малюю твой плашч,
А на ім —
Дзве слязы твайго плачу.

Уплятаю ў касу
Каляровыя стужкі
Вясёлкі.
Я ствараю красу,
Гэта ты —
На ўсе грамы і столкі.

Ты,
Да кроплі з тваёй
Пастарэлай,
Ды ласкавай злосцю.
Размаўляю з крывёй
Тваёй здрады,
Вяртання,
Мілосці.

І тваёй дабраты,
Што з маруднай дарогі
Вяртае...
А вяртаешся ты,
І я бачу —
Зусім не такая.

* * *

Куецца
Ранняя звон
Дарогай і лістотай.
Успомню,
Дзе наш клён
І дзе твае вароты.

Успомню.
Ды ў званы
Не б'е лістота клёна,
А ля варот адны
Аголеныя кроны.

* * *

Адышоў і гэты светлы дзень,
Дапалалі ў воблаках праменні.
Асцярожна твой ласкавы цень
Пасаджу з пяшчотай на калені.

Ты паслухай, трохі памаўчы,
Наталіся згадкамі маўчання.
Бачыш —
                    памірае далячынь
Пад суровым позіркам змяркання.

Перад тварам стомленай зямлі
Толькі маладзік непаслухмяны
Не мінае ціхія палі,
Прыкмячае сонныя паляны.

Вось, паслухай —
                    у такой цішы
Тое, што і мы калісьці мелі,
Голасам —
                    праменьчыкам душы —
Аклікае з дзён былых капэлі.



Шчырасць яе спытала:
— Што ты яму сказала,
Што аж да самага ранку
Ён не сыходзіў з ганка?
Шапку вобземлю кінуў,
Недзе ў тумане згінуў.
Шапка ў траву упала —
З болем трава завяла.
І не чутны яго крокі
Ні на зямлі,
ні ў аблоках...
— Шчырай была я.
І толькі.

## ПАМІЖ ДВУХ УДАРАЎ ВЁСЛАМІ

Паміж двух удараў вёсламі
Луг прыціх
на нашых руках,
Вусны гарачыя
сталі на момант дарослымі,
І скончыўся страх.
Насцярожаны золак
Выгінаецца
ў вока возера глянуць
І не можа адрозніць
вочы ад зорак,
Покуль сэрцы
любіць
не перастануць.
Покуль
на шчырым жаданні
Стома вясла не відна,
Вечнасцю,
што не падмане,
Русалка
палохае з дна.



Птушкі з вечарам раяцца.
Ліпа да ліпы туліцца.
І з-за ліп,
як з душы,
пачынаецца
Апошняя
да ног тваіх
вуліца.
А за хмарнасцю
столькі марнасці
І далёкасці рання...
І ноч,
не баючыся старасці,
Заходзіць
у пакой да кахання.

* * *

У вачах —
толькі белае-белае.
Ды любоў.
І вясны
гарачае цела
Чуе кроў.
Калі пойдзеш —
толькі па белым.
Першы след —
адбалелы след.
Працінаюць белыя стрэлы
Цэлы свет,
белы свет.
Белы дзень —
як твой крок нясмелы —
Прышыніў пад сасной...
Ты не можаш
папярэчыць беламу?
Паспрачайся са мной.

* * *

З воблакамі можна гаварыць,
Як трава
з апошнім промнем сонца,
Пра тое,
як можна любіць
Бясконца.
З птушкай,
што жанчыне пяе
Яшчэ напрадвесні,
Можна гаварыць,
як любяць
Яе
Песню.
Жанчыне,
з рукі якой
Птушка пяшчоту дзяўбе,
Можна
Гаварыць пра сябе,
Покуль любіць не позна.

* * *

Далягляд —
                    валадар аблокаў.
Яны
Да яго,
          ад яго
                    плывуць і плывуць —
Ад нас
          і па нас.
А тады,
Як аблокі,
Застыўшы,
               стаяць увесь дзень
Над намі,
Мы пачынаем
З трывогай глядзець
На далягляд.

* * *

Ясень гудзе —
Помніць
пра лёс
і пра восень.
Варона
паглядам дзяўбе
на вадзе
Апошнюю просінь.
Бліжэй падыду,
хоць знаю:
На апошняе слова
няма ў яго сілы,
У лістка,
што вось-вось паляціць —
Памірае,
Не заплюшчыўшы
воч сваіх стылых.
Ліст упадзе.
Ясень гудзе.
За корань яго зачаплюся
Не выпадкова —
Ля кожнага дрэва
я прыпынюся,
Як ля апошняга слова.

* * *

Не схавацца пад дрэвам
Ад самага ціхага голасу:
Шэпчацца свет
З коласам.
Вецер крокам нясмелым
Лістоту кранае,
як долю.
І вочы запомняцца
свету беламу
Сонцазаходам,
як болем,
Што у грудзях злева —
Непакоіцца свет
за сваё дзіця...
Не схавацца
Пад дрэвам
Забыцця.

# ЦЕНЬ

Я яшчэ, як воблакі, не сплю.
Воблакі на захадзе гараць.
Цені пахаваліся ў зямлю,
І ніхто не пойдзе іх шукаць:

Ні марудны клён ад азярка,
Ні святло задумлівых акон...
Вечнасць агукне з-за бальшака —
Над зямлёю цень яе спакон.

Невідомы, колькі ні глядзі,—
Самае звычайнае наўкол...
Пры дарозе птушка пасядзіць,
Мудрая, як вечнасці пасол.

Не спяшае птушка адлятаць,
Чалавек за ценем не бяжыць:
Немагчыма ценю пераняць,
Каб спытаць, як лёгка ценем быць.



Маладзік над сівой галавой.
Цішыня пра дарогу пытае.
Абярніся — зямля за табой,
Прыпыніся — ніхто не вяртае.

А святло высачэнных нябёс
Ад рухавае цемры бароніць...
Абярніся — абернецца лёс,
Прыпыніся — дарога дагоніць.



Ранак чуваць на дрэвах.
Птушкі яго пачулі,
Куст у птушыных спевах,
Як у светлай кашулі.

Сон атрасла бусліха,
Ён цяпер мне належыць.
Лісціку цяжка дыхаць:
Гэтулькі пахаў свежых.

І невядомых зыкаў,
І невядомых рухаў...
Хопіць,
каб свет вялікі
Іх толькі
бачыў і слухаў.

## ДЗЕНЬ

Дзень нарадзіўся —
Кволае дрэўца.
Большае,
большае
Цень яго ў сэрцы.
Вось юнакуе,
А вось і старэе,
Лісце губляе —
Напэўна, хварэе.

Дзяцел яму
Адбівае хвіліны.
Дзень на зыходзе,
Яго вершаліна
Недзе на захадзе,
Корань —
на ўсходзе,
У сэрцы —
да смерці,
Навекі —
ў прыродзе.



На ціхай, заснежанай хвоі —
Вавёрка —
раптоўны агонь.
Зрабіла прастору жывою,
Шпульнула арэх на далонь.

Я ўдзячны дарунку такому,
Я шчыра з табою, мой бор,
Вазьму твой дарунак дадому,
А з дому —
да мора і гор.

А гэту вось ціхую хвою,
Агонь яе, снег і тугу
Узяць не магу я з сабою,
Але
і забыць не змагу.

* * *

Маленькае балотца.
Багавінне
Пасярод любві маёй глыбокай,
Дзе нішто,
загінуўшы,
не гіне —
Ад карэнняў
да сівых аблокаў.

Балацінка з купінай для птушкі,
Дрыжыкі на ёй, як засцярога
Для маленькай, соннае пастушкі,
Што за ранак натрудзіла ногі.

Балацінка.
Я даўно ступаю
Ля цябе.
І не адзін.
З прагрэсам.
Думаеш, любоў мая скупая,
Я ж дзялю яе —
табе
і лесу.

А калі прыйду
і не заспею,
Толькі шум калосся слых натоліць,
Я сваю любоў
(дзяліць не ўмею)
Падзялю паміж табой і полем.



Ажывае кветка зверабою,
Адлятае кветка матылька.
Самай запаветнаю любоўю
Поўніцца душа палешука.

Тут, на ціхай лекавай паляне,
Адміранне, ўсходаў перазвон.
Наплывае радасць —
на вітанне,
Наплываюць слёзы —
на схарон.

Тут, дзе зёлкі ўсе
аддаць гатовы
Лекі думцы, сэрцу і крыві,
Самыя няўражлівыя словы
Прарастаюць словамі любві.

# АСЕННЯЕ

Нас абсыпаюць лісты адзвінелыя.
Гэтулькі звону яшчэ не было,
Ім перапоўнены яблыкі спелыя
І насцярожанай птушкі крыло.

Ім неспакойныя шыбы напоўнены,
Гнуткага ветру жывая струна,
Што дастае аж да самае поўні
І прымушае звінець давідна.

Сэрца, здаецца,— як звонам налітае,
Зараз пачне (немагчыма трываць)
Перабіраць-варушыць пеpажытае,
Самыя чыстыя гукі шукаць.

* * *

Пацяплела. Возеру не спіцца.
Вольна-вольна плешчацца вадзе:
Ні табе натруджаная пліца,
Ні вясло гаворку не вядзе.
Да вады адно туман хінецца,
Глыбінёй
Вачэй не наталіў.
І маё спакоенае сэрца
Напаўняе чуйнасці прыліў.
І чуваць, як возера шапоча,
Чысціня — адчуеш, глыбіня,
Нешта, незвычайнае,— ад ночы,
Незваротнасць будучага дня,
Да якога і вясло, і пліца,
Тварам павярнуўшыся, ляжаць...
Часам, калі возеру не спіцца,
Мне таксама немагчыма спаць.

## РАНЕТЫ

Яснымі бачыў начамі
Бляск абраселых ранетаў.
Боязна кратаць рукамі
Лісце, што імі сагрэта.

Колькі б яны зіхацелі
І не змянялі акрасу,
Каб не раптоўныя цені
Неасцярожнага часу?



Водгулле гадоў,
нібы рака,
Што гудзе вірамі за спіною,
Прыпыняе, просіць:
«Пачакай,
Падзяліся будучым са мною...»

Ля яго сядаю на траву,
І былое зноў напамінае,
Як пражыў
і чым цяпер жыву,
І яшчэ —
што будучае маю.

* * *

Б'е лісток аб лісток — авацыі
Першым кветкам, што расцвілі.
Касманаўтыка,
авіяцыя...,
Ўсё далей і далей ад зямлі.

Іншы раз і ў мой сон з'яўляюцца
Трасы зорныя, пры якіх,
Нібы зоркі,
ў цішы ківаюцца
Васількі.

* * *

Траў цвіценне.
                    Мурог. Шчамяліца.
І падбел, і навой, і быльнёг...
Я люблю, калі сонца садзіцца
І трава шархаціць каля ног.

Калі холад з ракі выплывае
І пад ногі кладзецца крадком.
І ракіта мой слых не стамляе
Таямнічым, сухім галаском.

І на ўсё пазіраю з даверам,
Быццам свет я заспеў у пару...
Пыл дарожны, як воблачка, шэры,—
Я у памяць яго забяру.

Я не ведаю, што яшчэ трэба,
Каб па мне зажурбоціўся звон.
Я яшчэ не нацешыўся небам
І травою,— крылатай, як сон.

* * *

Гаю зялёны крык,
Возера — сіні-сіні.
Ранішні цягнік
Пранізвае далячыні.

Маўчанне высокіх нябёс
Як быццам і незямное...
Як хутка я жыў і рос,
І ўсё гэта — разам са мною.

За гаем звіняць каласы
Высокім голасам хлеба,
Імем чыстай расы
Называю воблачка ў небе.

І просты бацькаў пагляд —
Мацнейшы за град і зброю —
Дазволіць глянуць назад,
Наперад пайсці з сабою.

Там гаю зялёны крык.
І возера.
І магілы.
І самы цвярозы разлік
Не мае без гэтага сілы.

* * *

Лёд і вада.
Крыгалом.
Сёння такое ў жыцці —
Сэрца сваё за сталом
Не прычакаю знайсці.

Поле з яго ветраком,
Вуліца —
з гаманой
Сэрца спрабуюць на злом
Праўдай сваёй
і мной.

З імі на сонца прыход
Гляну,
як быццам спяю
Песню пра долю і род —
Вечную сутнасць сваю.

Толькі і гэтай вясной
Сэрца і далей вядзе...
Сутнасць мая — не са мной,
Трэба шукаць між людзей.



Жыў — азначае любіў.
Толькі ці кожны, ці кожны
Лепшую справу рабіў,
Быў ад любові заможны?

Сонца хапала каму,
І нецярпення, і страху
Бачыць старую зіму
Лёгкай сняжынкай на даху.

Хто выхваляў не сябе
І не баяўся знямогі
Ў час, калі ранняй сяўбе
Холад сыходзіў з дарогі.

Хто ахвяроўваў любві
Першыя кветачкі славы
І не спяшаўся з крыві
Вынішчыць пахі атавы.

І на чужое дабро
Не дабіраў заляцанні,
Золата шумных дуброў
Пераплаўляў у жаданні.

Той і ў свой час залаты
Дзякуе сонцу і поту...
Золата — гэта не ты
Будзеш душы пазалотай.

Час і цябе агрубіў,
Ды заставалася ў сіле:
Жыў — азначае любіў.
Ох, каб і ўсе мы любілі!

# НОЧ ПАСЛЯ НАБЫЦЦЯ ДЫВАНА

Ноччу нехта прыйшоў,
Сеў за стол, быццам даўні знаёмы,
Заспрачаўся з душой
Майго ўтульнага, добрага дома.

Голас спрэчкі мацнеў.
Я паслухаў, каго яны пляжаць.
— Доме, ты распанеў...
— А няхай, што на ложку, раскажа...

— І дыван на сцяне?..
— Вунь яму на пацешачкі воку...
Падышоў да мяне,
Уздыхнуў, як над хворым, глыбока.

І на ложак прысеў.
Я стаіўся, знямеў, як падлога.
Чую: моцна трасе,
Усхапіўся — нікога, нічога.

Цёмны вырыс сцяны,
Дзе дыван, да размоў неахвочы.
Толькі вокны адны
Пазіраюць бязлітасна ў вочы.



У позні час
і позняя каса
З апошніх сіл дакошвае атаву.
Пагладжвае туман па валасах
І студзіць думкі пра чужую славу.

І хай бы хто са мной загаварыў,
І неўспадзеў перакурыць паклікаў,
Каб я, крый бог, сябе не адарыў
Кавалкам славы,
хоць і невялікім.

Каб я адчуў,
што трэба панасіць
І мазалі па сціплых вулках вёскі,
Што трэба ўсё жыццё касіць, касіць...
А дбаць пра славу —
гэта ўжо дакоскі.

* * *

Любуюся сасновым борам.
Гады, што разам пражылі,
Пазначаны жывым узорам
На яркай вышыўцы галін.

І пацямнелаю карою
У пастарэлае сасны,
Яе пахілаю сястрою,
Што захварэла ад вайны.

І нечуваным сугалоссем
Падросту і паважных дрэў...
Як ты, мой родны бор, разросся,
Памаладзееў і памудрэў,

Як ты гады свае пазначыў
З маімі радасным зліццём,
Не скаргамі на лёс і плачам,—
А несціхаючым жыццём.

* * *

Чуваць прылёт шпака,
Відны цяпла прыкметы:
Імклівая рака,
У клопатах кабеты.

І чуйная дзятва
У снах прастору чуе:
Пабольшала трава
І сонца патрабуе.

На ўсё глядзіш ізноў,
Што адбыло, што будзе,
На чыстае акно,
Мурзаты куст на грудзе,

На твар (як на абраз),
Што да людзей дабрэе,—
Над чым заспее час,
На час, які заспееш.

## ПАСЛЯ ДАЖДЖУ

Дождж прыціх.
                    Паўдня
З ветрам адляцела.
Неба чысціня
Вельмі ж пачысцела.

Чысты ліст крушыны.
Сонца на парозе.
Хораша душы,
Дрэву і дарозе.

Ластаўка крылом
Выкрасае пырскі.
І далёкі гром,
Як ніколі —
                блізкі.

* * *

Прыйшоў я на бераг.
Прыціх ад здзіўлення,
Я думаў,
Што людзі
няпраўду гавораць,
Гляджу,
А ў рачулцы
з такім захапленнем
Купаюцца зоры.

А месяц
За вольхай схаваўся,
рагоча,
Ажно пакалыхвае
тонкае вецце...
Ў рачулцы,
Дзе зоры
купаліся ўночы,
Купаюцца дзеці.

* * *

Снег ды снег.
                    Марозік за акном.
І на небе не відны аблокі.
Пакідаю свой высокі дом,
Снег кранаю чысты і глыбокі.

Праз падэшвы не чуваць зямлі,
Не чуваць асфальту і бетону.
Снежныя разлегліся палі,
Прыбяліўшы нават і варону.

Гэта час,
            калі ў душу маю
Чысціня заходзіць найглыбока,
Калі ў тым,
                каго не пазнаю,
Уяўляю светлага прарока.

* * *

Блакітнае марознае святло
Хінецца да прыхіленых бяроз.
А зорак адвячоркам намяло,
І ў кожнай зоркі неспакойны лёс.

І так гараць, і так гараць яны,
Як перад нейкай явай незямной,
Тут, дзе адвеку дрэмлюць курганы
Пад покрывам снягоў, як за сцяной.

Тут, дзе чуваць —
снячок сухі рыпіць,
Калі цішком выходзіш за сяло,
І ўсё чакаеш —
зорка прыляціць.
А зорка толькі аддае святло.

І на свячэнне снегу і бяроз
Глядзіш вачамі, поўнымі тугі,
Як быццам ты да часу не дарос,
А даўняй зорцы сплачваеш даўгі.



Што ўбачу за вогненным гаем,
Што ведалі там да мяне? —
Спрадвеку пытанне мільгае...
Не згледзіш —
                    і гай прамільгне.

За ім — нешырокае поле,
Рачулка,
            за ёй — небакрай...
Я з гэтай дарогі на волю
Ніколі не збочу, бадай.

Бо зноўку за лесам, за полем
І там —
            над апошняй вярстой —
Спрадвечных пытанняў няволя
Прывабіць сваёй прастатой.

## БЯРОЗЫ НА ЗДЫМКУ

Купка бяроз на сямейным партрэце,
Жоўценькіх сукняў адменлівы крой.
З імі хачу сустракацца па свеце:
З кронай,
карэннем
і чыстай карой.

Бачыць на золаку і на змярканні,
Бы на партрэце —
адна ля адной...
Ціха стаяць у маўклівым убранні,
Будуць шумець на шляху,
над труной.



Ляцяць чмялі над снегам ранняй грэчкі.
І траў высозных вольны ускалых
Прыносіць пахі мёду і мястэчка.
Мелодыю жыцця ўбірае слых.

Жыцця, што пакладзе гады ў пракосы
І ў большы-меншы скідае стажок,
Дзе ўлежацца павольны рып атосы
І электрычкі зветраны гудок.

Куды ласкавы, лёгкі шэпт грачаны,
Жальба асфальту, водгалас вады
З мелодыі жыцця плывуць,
бы ранак
У поўдзень —
як у век немалады.

* * *

Сяльцо пад крыламі буслоў.
Бацькоўскай хаты тварык дробны.
Аднекуль голас прынясло
На аніякі не падобны.

Я пазіраю на палі,
На хаты, на жывое вецце...
А гэта ўсё, што ёсць на свеце,
Гаворыць вуснамі зямлі.



Вецер ходзіць ля акна,
Бы сабраўся ў шлях няблізкі.
Хутка вылецiць вясна
З дзюбкі ластаўкі
ці пліскі.

І намацае крыло
У гняздзечку птушаняці
Незвычайнае цяпло,
Што ад сонца
і ад маці.

Вачаняты птушанят
Паглядзяць навокал стала...
Так
мільёны год назад
І Зямля з калыскі ўстала?

І захочацца вясне
Абнавіць лясы і пахі.
І прасветлена і мне
Паглядзяць у вочы птахі.

І ніяк не сагрaшу —
Іх у небе прывітаю...
Я птушыную душу
Да мужчынскай прыхінаю.



О, як недалёка змярканне.
Зямля насцярожвае слых:
Якое ў былінкі дыханне,
Якое —
у соснаў старых?

І ліпе на твар наплывае
Бусллянкі спакоены цень.
А мне гамана палявая
Напомніць,
што скончыўся дзень.

І я астываю,
як прысак,
Апошняй іскрынкай мільгне
У зрэнках лясок,
што абрысам
Напомніць камусьці мяне.



Я заходжу ў сад.
А восень — з саду,
Прыхапіўшы той апошні ліст,
Без якога і майму пагляду
Не хапае колькі цёплых рыс,

Каб згадаў я цяжкія галіны,
Завязь пахаў, яблыкі ў расе...
Каб стаяў і чуў,
як час няспынны
Ліст апошні
з восенню нясе.

Каб яе апошняе імгненне
Падглядзеў
(схаваецца ў ваду?)...
Не паспеў.
Ішоў у сад асенні,
Па зімовым, сцішаны, іду.



Пакланюся былінцы,
Што з дарогі відна,
З брукаванак,
гасцінцаў
Неспакойнага дня.

Той,
дужэйшай,
у полі,
Воддаль хат і прысад,
Што,
як сёння,
ніколі
Не сляпіцьме пагляд.

І вунь той,
непрыкметнай,
Неспазнанай і мной,
Што гаворыць прыветна
І ў душы,
і з душой.

І ў сябе на дзядзінцы,
І ў старонцы чужой —
Пакланюся былінцы.
Хто ж пакloніцца ёй?!

* * *

Старажытнасць вячэрняга неба
І цнатлівасць празрыстай травы...
Ўсё яно,
неад'емнае,
трэба,
Покуль маеш на гэта правы.

Бо і свет, што прыйшоў перайначыць,
Свет, які, колькі мог, абхадзіў,
Чуе подыхі:
неба — гарачы,
І зямлі —
асвяжальны наздзіў.

## НЕНАПІСАНЫЯ ВЕРШЫ

Вы не далі зняверыцца ў жыцці.
Я так хацеў, каб вы былі са мною
Вялікай, неадольнаю сцяною,
Што нельга, смерць мінуўшы, перайсці.

Я вашыя вяршыні не чытаў,
За вашы мне не сорамна вяршыні,
Як небу за высокі колер сіні,
Якога аніхто не патаптаў.

А мукі вашы я не разумеў,
Пакуль ад вас не дачакаўся болю,
Вы ціхенька прасіліся на волю,
А я на волю адпускаць не ўмеў.

Тады злятала сіла вашых мук
З вяршынь балючых гутарыць з душою
Гарачай, ціхай...— не дай бог
скупою...
О, як баяўся я тады уласных рук:

Няўжо пачнуць бяздарнасцю крышыць
І мукі тыя, і той боль паднебны?..
Мне верш, што ненапісаны, патрэбны,
Каб веру у сябе не патушыць.



Восенню нас напаўняюць лясы
Крэўнай трывогай і літасцю крэўнай,
Стратай лістоты, як стратай красы,
Цішай напеўнай, як доляй няпэўнай.

Восенню ўкрадкі даверыцца нам
Дождж, што не можа ўтрымацца на голлі...
Восенню мы давяраем лясам
Літасць, трывогу, красу нашай долі.

* * *

Пазнаю дарогу чыстую:
Ні машын і ні фурманак.
На усходзе цёплай іскраю
Разгараецца світанак.

Як святая, ў вечным роздуме
Ля магіл стаіць жанчына.
Сэрцу мілае і роднае,
І балючае —
Айчына.



Я — ручай,
а ты — выток,
Родная мая зямля.
Птушцы кожнай кіпцюрок
Вымыю —
адно крыляй.

Хай ніхто не папракне,
Што мялеў, а не глыбеў:
Дрэўца кожнае ў мяне
Гляне з думкай пра цябе.

Стану я перад табой,
А на сэрцы —
светлы след:
Мне жанчына чысцінёй
Прызаслоніць белы свет.

Сонца ранняе ледзь-ледзь
Гляне —
і вяртацьме зрок...
А калі і прыйдзе смерць,—
Па ручай,
не па выток.

## ЗМЕСТ

**Марук У.**
М 30 Ліст рабіне: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 127 с.

Узаемасувязь чалавека і прыроды — адна з галоўных тэм зборніка. Малады паэт уважліва прыслухоўваецца да шолаху лістоты, якая, «як душа, прасвечваецца», адчувае жывыя карані пракаветных палескіх сосен, якія, спадзяецца ён, вечныя, як само жыццё на зямлі. Яркае полымя рабіны — паэтычны сімвал чалавечнасці і высокага сэнсу жыцця людзей. Вершы ў паэта часта набываюць філасофскае гучанне.

М $\frac{4702120200-001}{М\ 302(05)-87}$ 58—87 ББК84Бел7



**Владимир Антонович Марук**

**Письмо рябине**

**Стихи**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *М. М. Мятліцкі.* Мастак *Л. П. Дубавіцкая.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо.* Карэктар *І. М. Паланейчык.*

ІБ № 2639

Здадзена ў набор 07.05.86. Падп. да друку 09.10.86. АТ 00666. Фармат 70×90$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,90. Ул.-выд. арк. 3,31. Тыраж 2700 экз. Зак. 2512. Цана 35 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

